№ 29 Пятніца 31-га сьнежня, 1926 г. м Вільня Год I

# Беларускае Слова



Выходзіць раз у тыдзень

Цана нумару 20 грош.

**Нацыянальнае адраджэньне.—Тэрыторыяльная і культурна-нацыянальная аутаномія.—Зямля сялянам на падставе уласнасьці.—Шырокі дэмократызм.—Барацьба з комунізмам.—Нацыянальная царква.—Краевая згода.—Далучэньне Усходняй Беларусі да Заходняй.**

Падпісная цана на 1 месяц 1 зл.
„ „ 3 „ 2 зл. 50 гр.
Заграніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Wilno ul. Fabryczna 39.
Рэдакцыя адчынена ад 12—2 гадз. штодня апрача сьвятаў.

Цана абвестак: перад тэкстам—20 гр.
„ сярод тэксту —25 гр.
„ на апош. стар.—20 гр
за радок нонпарэля.

# НОВЫ ГОД.

Ідзе Новы 1927 год. Спрадвеку паводле старадаўняга звычаю, людзі аглядваюцца ў гэтую хвіліну на стары, пражыты год і робяць пляны на новае лепшае жыцьцё.

Глянем і мы ў стары год і паправуем паставіць гороскоп Беларускага Народу на 1927 год.

Хто ня ведае, што 1926 год быў для беларусаў можа найбольш цяжкім з усіх апошніх гадоў. Жалезная хьена-пястоўская пятля заціскала Беларускі Народ. Была задушана маладая беларуская школа. Пасунулася на нашыя землі хмара чужынцаў — асаднікаў. Паліцыйны, а часта і адміністрацыйны праізвол перайшоў усялякія межы, дапусьцімыя ў парлямэнтарнай Дзяржаве. Пачалі рабіцца спробы штучнага націску на веру нашых бацькоў. У гэтым „крыжавым паходзе на крэсы" з мэтай полёнізацыі і дэнацыяналізацыі Беларускага Народу, адны партыі канкуравалі з другімі... Праўда з боку групаў дэмакратычных і сацыялістычных мы чулі многа пекных словаў, але рэальных здабычаў народ наш ня толькі ня меў, а нават, здабытае раней, траціў. Аднак жа мусім з гордасьцю сканстатаваць, што народ наш ня толькі не паддаўся дэнацыяналізацыі і асыміляцыі, а наадварот: уціск толькі згрудзіў народ, узмацаваў у ім нацыянальную сьвядомасьць. І вось народ безабаронны, пакрыўджаны пачаў шукаць ратунку... Ня спаў і ўважна сачыў за ўсім, што рабілася на Заходняй Беларусі Чырвоны Сусед

Там на Усходзе пачаўся тварыцца псэўда—беларускі Пьемонт. Адтуль палілася зараза комуністычнай прапаганды, палілося ракою бальшавіцкае золата.. Знайшліся адпаведныя людзі—вырасла „Грамада"! Сытуацыя камплікавалася... Але... Грамыхнуў пярун!

Акутаны дымкай гэройства і гістарычна— рыцарскай байкі, выйшаў на шырокі палітычны шлях, чалавек вялікага палітычнага размаху, чалавек вялікай адвагі і волі, які ўсім сваім жыцьцём даказаў, што свае думкі, свае ідэі ён прызвычаіўся апіраць на чынах.

Маршалак Піілсудскі яшчэ ў 1919 годзе сказаў словы, якія павінны быць на штандарах, пад якімі могуць зыйсьціся два братнія народы—польскі і беларускі.

„Вольныя з вольнымі"—сказаў сын нашае зямлі Пілсудскі ў 1919 годзе!

І забілася сэрца мільёнаў беларусаў, калі выйшаў ён на вуліцу з аружжам ў руках у маю 1926 года, галасна заявіўшы, што „зашмат несправядлівасьці ў Дзяржаве"...

І ўсе чакалі зьменаў Чакаў і Беларускі Народ.

Праўда, прайшло доўгіх 7 месяцаў.

Але цяперака напярэдадні Новага Году мы чуем, што зьдзейсьненьне нашых надзеяў наступае.

Урад Пілсудскага гатуе рэформы для беларусаў.

Не раз на старонках нашае газэты мы казалі, што рэформы гэтыя *зусім ня прыйсьці ня могуць*. Што супольная карысьць, а перад усім карысьць для самае Польшчы прымусяць Урад, ня гледзючы на ўсялякія перашкоды і зацягваньні, пайсьці на вырашэньне беларускай праблемы. І вось сяньня ў мамэнт, калі Польшча ў сваім вонкавым палажэньні акружана актыўнымі ворагамі; калі яшчэ нядаўна з Горнага Сьлёнзку надыйшлі небясьпечныя весткі аб рэзультатах муніцынальных выбараў; калі бальшавіцкі Менск сягае сваімі ўплывамі ў Заходнюю Беларусь; калі, нарэшце, ў гэтых днях здарыўся пераварот у Літве, выдвінуўшына чале ўлады выразна актыўна — антыпольскія групы пямецкай арыентацыі—ў гэты мамэнт Польшча павінна быць унутранна дзяржаўна—моцнай і адзінай. Павінна быць ідэя, якая злучыла бы ў адно адзінае ўсе нацыянальнасьці Польшчы. Папярэдняя консолідацыя унутраных сілаў Польшчы па прынцыпу польскага нацыяналізму пацярпела поўны крах.

Дый і як гэта можа быць пры прысутнасьці $^1/_3$ грамадзян іншых нацыянальнасьцяў?

І гэніяльны Пілсудскі пачаў консолідацыю сілаў па іншаму прынцыпу—прынцыпу справядлівасьці, саюзу і згоды ўсіх народаў Польшчы. А той факт, што Пілсудскі зьбіў з дзяржаўных пазыцыяў і адабраў панаваньне ў эндэцыі, якая нас ніколі і за людзей ня лічыла—ясна нам паказаў куды ідзе адзіны шлях беларускага народу. У інтуітыўным зразуменьні настрояў і плянаў Пілсудскага, у поўнай сьвядомасьці свайго чыну, Беларуская Рада, яшчэ 15 мая г.г. рашуча выбрала свой шлях. А Беларускі зьезд Заходняй Беларусі 27 чэрвеня гэты крок Рады сцьвердзіў.

У сяньня, уступаючы ў Новы 1927 год, мы глыбока праконаны, што новы год прынясе і Беларускаму Народу добрыя навіны — што прыдуць доўга чаканыя рэформы.

А адначасова мы зусім сьвядомы і таго чыну, якім мы—палітычны напрамак сучаснага руху беларускага вяжам з вялікімі ідэямі магутнага рулявога сучаснай Польшчы,сына нашай зямлі. Консолідацыя ўнутраных, здаровых сілаў у Польшчы каля агульна людзкага Ідэалу, каля чыстага імені распачалася. Яна адбудзецца. І Беларускі Народ у гэтай консолідацыі ўдзел прыме, займаючы ў Дзяржаве належное яму па праву і згоднае з яго нацыянальным гонарам—мейсца.

Усіх нашых Сябраў, б. вучасьнікаў Зьезду Заходняй Беларусі і Чытачоў віншуем з Новым Годам!

*Беларуская Нацыянальная Рада*
*Т-ва „Прасьвета".*
*„Беларуская Хатка".*
*Рэдакцыя „Беларускае Слова".*

## Далейшы развал гурткоу Грамады.

Развал Грамады пад уплывам сэкрэтарыятаў і прэсы Рады захватвае ўсё больш шырокія кругі. Гэтак у павеце Несьвіском развал гурткоў прыняў масавы характэр. Сяляне кідаюць гурткі і пагалоўна з іх выпісваюцца, так што скора ўвесь павет ачысьціцца ад грамадаўска-пралетарскіх гурткоў.

Гэтак у павеце Несьвіскім усьлед за 3-ма пададзенымі у папярэднім нумару, разваліліся яшчэ 7 гурткоў!. Развал з паветаў Несьвіскага і Слонімскага перакінуўся да павету Наваградзкага. Гэтак зьліквідаваны галоўны сэкрэтарыят у м. Дзятлаве і *усе сябры выпісаліся з партыі.*

Сумліву быць ня можа: Грамадаўская арганізацыя трашчыць!
Адліў ужо пачаўся і ідзе па ўсей лініі, захапляючы усё новыя районы. У добры час!.

# Палітычны агляд.

Найбольшым палітычным здарэньнем апошніх дзён зьвярнуўшым на сябе ўвагу ўсей Эўропы, зьяўляецца вайсковы пераварот у Літве. Уначы з 16 на 17 гэтага месяца ковенскі гарнізон на чале з маёрам Плехавічусам збунтаваўся і бяз выстрала заняў усе дзяржаўныя і мястовыя інстытуцыі. Скора на старану паўстанцаў перайшлі гарнізоны і ўсіх іншых гарадоў. Гэткім чынам быў скінуты папярэдні ўрад Слезэвіча і на яго мейсца пастаўлены новы Ўрад Вальдэмараса.

З першага пачатку хадзілі самыя супярэчныя вэрсыі аб характары і мэтах перавароту, пакуль прадстаўнікі новага ковенскага Ўраду ня высьнілі афіцыяльна прычын і мэтаў гэтага паважнага факта. Перш—наперш трэба запамятаваць, што ковенскі вайсковы пераварот зусім нанамінае маёвы пераварот у Варшаве, з той толькі розьніцай, што ён мае выразна фашыстоўскі характар і быў зроблены бязкроўна. Тлумачыцца гэта, па першае, вельмі добраю яго падгатоўкаю і, па другое, — надта спрыяючымі абставінамі. Як палітычная, гэтак сама і эканамічная сытуацыя Літвы вельмі цяжкая. Край завітаў у гэтым годзе вялікі няўраджай. Выразна землябробскі край мусіць увязьці з-за граніцы прынамся на 9—10 мільёнаў даляраў збожжа, у той час як увесь абег гатоўкі ў краі складае калі 80 мільёнаў літаў, ці 8 мільёнаў даляраў.

Гэткім чынам папярэдні ўрад Слезэвіча, апіраючыся на сацыялістычна-радыкальныя партыі ковенскаго Сойму апынуўся ў вельмі цяжкіх унутраных гаспадарча-палітычных варунках. Але замест таго, каб шукаць вернага выхаду з сытуацыі, урад Слезэвіча какетаваў з маскоўскімі і сваімі ўласнымі бальшавікамі, чым паглыбляў яшчэ больш унутраны крызіс. Комуністы паднялі галаву і адкрыта рыхтаваліся да дзяржаўнага пераварота. Быў нават вызначаны дзень на 20 сьнежня, калі-б не папярэдзіў яго пераварот Плехавічыуса. І апошняй кропляй, перапоўніўшай чашу народнай цярплівасьці, быў літоўска радавы трактат узаемнай неагрэсыі, нічога не даўшы Літве, апрача падрыва яе аўтарытэта за граніцаю. Гэткім чынам для нацыянальна мысьлячых элемэнтаў было ясна, што трэба ліквідаваць урад Слезэвіча і „Керэншчыну", пакуль ня позна, пакуль комуністы не апанавалі пры помачы Масквы ўраду. Гэтым і тлумачыцца тая лёгкасьць і хуткасьць, з якою ковенскі гарнізон зрабіў пераварот.

З вышэй гаворанага відаць, што літоўскі пераварот мае выключна ўнутраныя прычыны і зьяўляецца рэакцыяй проці комуністычнай паг-

